# ІПАСТАСІ АРМІІ КРАЁВАЙ

Сярод кола прафесійных інтарэсаў навуковага супрацоўніка Інстытута гісторыі АН Беларусі, кандыдата гістарычных навук *Віктара Іванавіча ЕРМАЛОВІЧА* ёсць тэма, што нейкі час заставалася для шырокай публікі малавядомай. Гэта даследаванне дзейнасці Арміі Краёвай — польскай баявой арганізацыі, вакол ролі якой падчас другой сусветнай вайны дагэтуль не заціхаюць спрэчкі. Чым яна была для Беларусі, яе народа: ворагам, саюзнікам, нейтральным фарміраваннем? Адназначнай ацэнкі, як высвятляецца, няма і сёння.

На нашу думку, аўтар прапануемага артыкула В. Ермаловіч, спрабуе аб'ектыўна, абапіраючыся на фактычны, дакументальны матэрыял, даць непрадузятую ацэнку Арміі Краёвай (АК), яе месцу ў сучаснай беларускай гісторыі.

Для зручнасці, лепшага паразумення чытачом матэрыял друкуецца ў выглядзе пытанняў і адказаў.

— *Што ўяўляла сабой АК? Рэгулярнае фарміраванне, партызанскае, стыхійна згуртаванае злучэнне? Падпольная арганізацыя?*

— Армія Краёва (у перакладзе армія краіны, айчыны) — падпольная ваенная арганізацыя, якая дзейнічала ў 1942-45 г. на акупаваных германскімі войскамі тэрыторыях Польшчы, Літвы, Заходняй Беларусі і Украіны. Яе стратэгічнай задачай была барацьба за адраджэнне польскай дзяржавы ў межах 1939 г. АК падначальвалася польскаму ўраду ў Лондане і налічвала ў сваіх шэрагах 250—300 тысяч чалавек.

У Заходняй Беларусі злучэнні АК былі размежаваны на чатыры акругі: Беластоцкую, Віленскую, Навагрудскую і Палескую, паводле розных звестак, 14—20 тысяч жаўнераў.

— *У нашай гістарычнай, нават навуковай літаратуры аж да 1990 года лічылі за лепшае не згадваць АК, а калі і што-кольвечы з'яўлялася, дык больш у чорных фарбах. Ці не гэтак?*

— Так. Амаль 40 гадоў змоўчвалася амаль усё, што тычылася фарміраванняў АК на беларускай зямлі ў гады Вялікай Айчыннай вайны. На гэта былі свае прычыны. Перш за ўсё, такое становішча дыктавалася ідэалагічнымі ўстаноўкамі кіраўніцтва КПСС — КПБ, якое, мацуючы «братэрскія», «саюзніцкія» стасункі з Польскай Народнай Рэспублікай, адступалася ад гістарычнай праўды.

Адыграў сваю ролю і той факт, што ў спецсховішчы трапіла ў 50-х гадах першая буйная праца «Усенародная партызанская вайна ў Беларусі супраць фашысцкіх захопнікаў», аўтарам якой значыцца Л. Цанава. Фінал берыеўскага памагатага Лаўрэнція Цанавы вядомы. У няміласці апынулася і яго кніга. А на старонках яе дастаткова шырока, хаця і аднабакова, асвятляліся дзеянні АК ў Беларусі. Такім чынам, як тады вялося, і тэма Арміі Краёвай сталася непажаданай, закрытай. Нават энцыклапедыя «Беларусь у Вялікай Айчыннай вайне 1941—1945 г.» апусціла артыкул пра АК.

Праўда, трэба адзначыць з'яўленне ў 1991-94 г. шэрагу артыкулаў названай тэматыкі ў беларускім друку. Сярод аўтараў гэтых публікацый гісторыкі і журналісты У. Гуленка, С. Крапівін, А. Літвін, А. Хацкевіч. Як пазітыўны момант нагадаем артыкул А. Літвіна «Армія Краёва» у 1-м томе «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі», які сёлета ўбачыў свет.

— *З чаго пачыналася АК?*

— Пасля краху ў верасні 1939 года тагачаснай польскай дзяржавы ў Лондане быў створан яе эміграцкі ўрад на чале з Уладзіславам Сікорскім. Ён і стаў ажыццяўляць кіраўніцтва дзеяннямі падпольных узброеных груп на тэрыторыі Польшчы, а таксама ў Заходняй Беларусі і Украіне. Урад Сікорскага, натуральна, не прызнаваў дагавор паміж Германіяй і СССР адносна Польшчы і падзелу яе тэрыторыі. Да пачатку ліпеня 1941 г. і польскі ўрад, і падначаленыя яму падпольныя ваенныя арганізацыі знаходзіліся ў стане вайны як з Германіяй, так і з Савецкім Саюзам. І аж да гэтага часу не канчаліся ўзброеныя акцыі супраць Чырвонай Арміі ў заходніх абласцях Беларусі і Украіны. Больш таго, яшчэ і ў ліпені 41-га прыхільнікі Сікорскага вялі вайну на знішчэнне супраць невялікіх груп чырвонаармейцаў і партызанаў.

Іншы раз, калі справа датычылася барацьбы з нашымі войскамі, польскія банды не грэбавалі нават падтрымкай гітлераўцаў. У дакладной вядомага партызанскага камандзіра В. З. Каржа на імя П. К. Панамарэнкі адзначалася, што Чырвоная Армія адышла з Заходняй Беларусі, у некаторых раёнах пачалі ствараццa польскія бандыцкія групы, своечасова не абясшкоджаныя. Яны дзейнічалі з немцамі супраць нашых актывістаў, байцоў і камандзіраў, якія выходзілі з акружэння, ішлі на ўсход. І далей Васіль Корж выкладае свой план далейшых дзеянняў, скіраваных на нейтралізацыю бандытаў.

У 1942 г. працэс кансалідацыі польскіх нацыяналістычных сіл, у тым ліку ў Заходняй Беларусі, скончыўся. Яны сталі падпарадкоўвацца аднаму кіраўніцтву, сфарміравалася структура арганізацыі, якая атрымала ўсім знаёмую потым назву: Армія Краёва.

— *У якіх стасунках знаходзілася АК з партызанамі?*

— Тут трэба адрозніваць два перыяды. Першы: 1942 — восень 1943 г. Тады ў значнай меры на дзеянні фарміраванняў АК у Беларусі пазітыўна ўплывалі пагадненне аб усталяванні дыпламатычных адносін паміж СССР і Польшчай і пагадненне аб ваенным супрацоўніцтве паміж узброенымі фарміраваннямі абодвух бакоў. Пад той час акаўцы правялі супраць нямецкіх захопнікаў шэраг аперацый, разбілі фашысцкія гарнізоны ў Івянцы, Радуні, Юрацішках, Беняконях і г. д. Атрады АК у Навагрудскай акрузе з 1942 па 1944 г. больш як у ста баях нанеслі немалы ўрон гітлераўцам. Аднак тыя ж легіянеры з восені 1943 па ліпень 1944 года 81 раз завязвалі баі з партызанамі. Гэтак надышоў другі этап — этап канфрантацыі з беларускімі партызанамі. Прычым дзень пры дні варажнеча нарастала. І гэта было характэрна не толькі для адной акругі — для ўсіх. Зрэшты, другі этап — перыяд не толькі ўзброеных сутычак, а і перыяд, характэрны фактамі супрацоўніцтва АК з акупацыйнымі ўладамі ў барацьбе супраць савецкіх партызанаў. І не прызнаць таго супрацоўніцтва не могуць і польскія гісторыкі, у прыватнасці, Е. Туронак.

У апошні час у беларускім і польскім друку з'явіліся публікацыі, у тым ліку і кніга Е. Туронка, дзе выказваюцца меркаванні, што новае супрацьстаянне «АК — беларускія партызаны» — гэта рэакцыя на разрыў савецкім урадам сваіх адносін з польскім у Лондане і рэалізацыя партызанамі загаду П. К. Панамарэнкі аб раззбраенні АК. Не зважаць на гэтыя довады, вядома, нельга, але нельга не адзначыць, што не яны сталі першапрычынай супрацьборства, якое абвастрылася раней згаданых падзей, асабліва пасля візітаў эмісараў польскага эміграцкага ўрада.

Думаецца, канфрантацыя была абумоўлена ходам вайны і амбіцыямі польскіх правячых колаў. Гэта пацвярджаецца ўсёй далейшай іх палітыкай, іх планамі на вызваленай зямлі Заходняй Беларусі і Украіны стварыць умовы для «адраджэння» Польшчы ў старых межах.

— *Ці праўда, што АК у дачыненні да беларусаў праводзіла тактыку тэрору?*

— У дачыненні да ўсіх сацыяльных слаёў і палітычных плыняў у беларускім асяроддзі, якія не падтрымлівалі ідэю адраджэння польскай дзяржавы ў межах 1939 г., акаўцы прымянялі палітыку «супакаення» з дапамогай агню і мяча. Так, яны спалілі вёску Лукашы былога Заслаўскага раёна разам з яе жыхарамі, вёскі Турэйск і Забор'е Жалудоцкага раёна. Легіянерамі Стаўбцоўскага злучэння АК, паводле мемуараў аднаго з прыкметных ваенных функцыянераў А. Пільха, за якіясь паўгода было забіта 6 тысяч «бальшавікоў». Падобнымі падрабязнасцямі стракацеў бы летапіс АК, будзь ён напісаны.

Набожныя католікі-легіянеры, якія пастаянна наведвалі касцёл, тым не менш не спыняліся перад забойствам беларускіх святароў, праўда, праваслаўных. Па-зверску, здзекліва, на вачах дачкі і пляменніцы быў забіты протаіерэй Міхаіл Леванчук, вядомы дзеяч беларускай нацыянальнай асветы. Хтосьці з катаў сарваў з яго шыі крыж. Потым легіянеры застрэлілі дачку і пляменніцу святара. Колькасць знішчаных акаўцамі святароў і членаў іх сем'яў дасягае колькіх дзесяткаў.

У шэрагу выпадкаў акаўскае кіраўніцтва разыгрывала антыбеларускую карту рукамі германскіх акупантаў. Пра гэта гаворыць у сваёй кнізе К. Акула, сведчаць дакументы польскага падпольнага цэнтра Палескай акругі ад 14.05.43 г. за подпісам Ф. Дубінскага, перахопленыя партызанамі. У іх было сказана, што «...палякі мусяць любымі спосабамі кампраментаваць беларусаў перад немцамі, дабіваючыся іх арышту, каб страты іх былі больш, чым у палякаў». На адным са сходаў мясцовай падпольнай арганізацыі «Грэнадзёры» у Іўеўскім раёне была прынята пастанова, адзін з пунктаў якой абвяшчаў: «Праз сваіх людзей прасіць паліцыю і немцаў паліць беларускія вёскі на той падставе, што яны дапамагаюць партызанам».

— *Што можна сказаць пра далейшы лёс акаўцаў?*

— Радавы склад гэтых фарміраванняў, раззброеных беларускімі партызанамі, меў выбар: пайсці дадому або ў партызаны. Афіцэры, у большасці злосныя ворагі СССР, былі знішчаны, астатнія інтэрніраваны, у прыватнасці, паручнік Каспер Мілашэўскі, камандзір аднаго з буйных фарміраванняў АК, а пасля вайны яны вярнуліся на радзіму— Мілашэўскі прадоўжыў службу ў Войску Польскім, стаў палкоўнікам. Пры вызваленні ж Беларусі ад фашыстаў атрады АК былі раззброены. Жаўнерам і афіцэрам давалі магчымасць працягваць службу ў Войску Польскім. Частка іх прыняла ўдзел у вызваленні Польшчы ад гітлераўскіх захопнікаў. Тых, хто «наваяваўся», інтэрніравалі, некаторыя былі асуджаны за злачынствы, зробленыя падчас знаходжання ў АК. Нейкая частка акаўцаў скрылася ў падполле, вяла барацьбу з народнай уладай у ПНР, з савецкай уладай у Заходняй Беларусі.

# Навука збірае прадпрымальнікаў

Беларуска-расійскі навукова-практычны семінар «Новыя тэхналогіі, матэрыялы і абсталяванне для апрацоўкі вадкіх і газападобных асяроддзяў» адбыўся ў Мінску. Ён праведзен Міжгаліновым інстытутам павышэння кваліфікацыі кадраў пры Беларускай дзяржаўнай палітэхнічнай акадэміі і выклікаў жывую цікавасць многіх людзей як навукі, так і бізнесу.

Прадстаўленыя айчыннай навукай распрацоўкі былі прысвечаны феномену крэменю і яго практычнаму прымяненню пры ачышчэнні і актывацыі водных і водазмяшчальных асяроддзяў. Вучоныя паказалі і навукова абгрунтавалі шматграннасць гэтага унікальнага прыроднага мінерала (А. Малярчыкаў, П. Аладоўскі, А. Прышчэпаў, А. Яноўскі). Сёння самыя актыўныя разнавіднасці крэменю паспяхова выкарыстоўваюць для ачысткі і кансервацыі вады, у тэхналогіях, што прадугледжваюць рэзкае змяненне кіслотнасці водазмяшчальных асяроддзяў, а таксама ў вытворчасці лікёра-гарэлачнай прадукцыі. Чытачам, пэўна, не лішне нагадаць, што напіткі, апрацаваныя крэменем, набываюць не толькі крыштальную чысціню, а і адмысловыя смакавыя якасці. Набірае тэмпы і прамысловасць вырабаў з крамянёў — шарападобныя рабочыя целы для млыноў, парашкі рознай ступені дысперснасці, разнастайныя колата-здробненыя крамянёвыя мінералы (Г. Коўш).

Увагу ўдзельнікаў семінара прыцягнулі фільтравальныя сістэмы водаачысткі, бытавыя апараты, якія паляпшаюць арганалептычныя і мікрабіялагічныя характарыстыкі пітной вады. Устаноўкі для электрахімічнага актывавання водаправоднай вады, паказаныя, напрыклад, М. Падаляком, не маюць аналагаў у свеце. «Жывую» і «мёртвую» ваду для гаспадарча-прамысловых, касметычных, лячэбных мэт дазваляюць атрымаць электраактыватары, прадэманстраваныя Л. Гросманам.

Наколькі вялікая гама вырабаў на аснове крэменю, дазваляе меркаваць убачанае і пачутае на семінары: новыя плёначна-тканінныя матэрыялы і фільтры з іх, водаачышчальныя фільтры з бактэрыцыдным, антывірусным дзеяннем і ўльтрафільтрацыйныя мембраны. Апараты і цэлыя тэхналагічныя лініі з выкарыстаннем гэтых навінак функцыяніруюць ужо ў вытворчасці. Сталі рэальнасцю фільтрацыя і згушчэнне вадкіх раствораў керамічнымі мембраннымі фільтрамі і г.д.

Вядома ж, ваду, тым больш ачышчаную і таму асабліва карысную для здароўя, трэба і берагчы адпаведна. І таму зусім нялішняй на семінары была прысутнасць прадстаўнікоў беларуска-нямецкай фірмы «ІнтэрКарэ», якія прапанавалі па «смяхотна нізкіх цэнах» свае лічыльнікі расходу вады для прамысловых і бытавых патрэб. А заадно і лічыльнікі прыроднага газу.

Цікавымі для бізнесменаў аказаліся таксама новыя тэхналогіі і матэрыялы для апрацоўкі вадкіх і газападобных асяроддзяў, атрыманыя групай навукоўцаў на чале з прафесарам Л. Багінскім. Шэраг гэтых распрацовак запатэнтаваны ў рэспубліцы і за яе межамі.

Семінар выявіў вялікія магчымасці беларускай навукі і ў галіне ачысткі гальванічных сцёкаў і ўтылізацыі шламаў.

Само сабой, што ўдзельнікі семінара аддалі належнае такім важным экалагічным праблемам, як забруджванне падземных вод і іх ачыстка для піцця і тэхналагічных мэт, як прымяненне мадыфікаваных сарбентаў для ачысткі вадкасцей ад радыенуклідаў, і іншым.

Кантакт навукі і бізнесу адбыўся. Не абышлося без дыскусій, але вядома, што ісціна нараджаецца ў спрэчках. Былі заключаны камерцыйныя здзелкі, проста на месцы закуплена тое з прадэманстраванага, што прыйшлося прадпрымальнікам даспадобы. Дарэчы, і зборнік матэрыялаў семінара будзе выдадзены ў поўным аб'ёме на сродкі дзелавых людзей.

Прынята рашэнне аб стварэнні міжнароднай асацыяцыі па праблеме атрымання чыстай вады.

Анатоль СЯРГЕЕЎ.



НА ЗДЫМКУ: доктар тэхнічных навук, прафесар Палітэхнічнай Акадэміі Леанід Багінскі адкрывае семінар.

Фота М. БУДЧАНІНА.

ГЭТЫХ ДЗЁН НЕ ЗМОЎКНЕ СЛАВА

# НІШТО НЕ ЗМЕНШЫЦЬ ЗНАЧЭННЯ ПЕРАМОГІ

*(Заканчэнне. Пачатак у № 17).*

Адчувалася падрыхтоўка да нечага сур'ёзнага, бо падобныя змены закранулі многія часці і шэраг франтоў. Як потым зрабілася ясна, камандаванне рыхтавала разгром нямецкіх груповак пад Сталінградам, на Каўказе і ў Данбасе. Гэта быў смелы стратэгічны план, бліскуча ажыццёўлены. Мне таксама выпаў гонар браць удзел у гэтай кампаніі. На свае вочы бачыў гераізм і самаахвярнасць нашых воінаў, якія свядома ішлі на подзвіг дзеля Радзімы. Яшчэ падчас нашага адступлення ў чэрвені 1941-га мне давялося быць удзельнікам бою нашых разрозненых часцей з фашысцкім дэсантам, у складзе якога — лёгкія танкі, танкеткі, кулямёты. У нашых жа адны вінтоўкі ды гранаты. На нас паўзлі два танкі. Два савецкія салдаты ўскочылі на гэтыя пачвары і, зняўшы з сябе абмундзіраванне, прыкрылі танкам «вочы». Грукаючы прыкладамі, салдаты вымусілі экіпажы выйсці і здацца.

Хто яны, гэтыя героі? Хто ацаніў іх подзвіг? Яны засталіся безыменнымі. І іх, незаўважаных і неадзначаных, былі тысячы тысяч.

У нас прынята лічыць, што колькасць узнагарод на грудзях сведчыць пра ступень удзелу ў баявых дзеяннях. Глыбокая памылка. Якраз акопныя салдаты і камандзіры, далёкія ад штабоў менш за ўсіх атрымлівалі ордэны і медалі. Больш паловы радавых, сяржантаў, камандзіраў узводаў, што былі на перадавой, не мелі пасля скончэння вайны ніводнай узнагароды. Затое шчодра ўзнагароджаны старшыя афіцэры і генералы, штабнікі, паліт- і партработнікі палкавога і вышэйшага ўзроўню, інтэнданты і г.д.

А вось на расправу нашы ўлады былі скорыя. Нават падчас вайны рэпрэсіі заставаліся звычайнай практыкай. Тыя ж штрафбаты, якія замянілі дысбаты мірнага часу. Тут не лічыліся з жыццём салдатаў. Гэтыя батальёны накіроўваліся на самыя небяспечныя ўчасткі, на штурм, пад прыцэльны агонь праціўніка. Нават калі ў тым не было неабходнасці. Проста знішчалі людзей, што ў чымсьці, няхай і нязначным, правінаваціліся. Загладзіць віну можна было адно смерцю або раненнем.

На фронце дзейнічалі так званыя загарадатрады — спецслужбы НКУС. У выпадку адступлення на[illegible] войск яны білі па сваіх. Наперадзе — вораг, ззаду, выходзіць, другі. Выйсце — смерць. Ці патрэбна была такая крайняя мера? Думаю, не. Гэта кашчунства.

А сачэнне за лаяльнасцю нашых воінаў? Асобыя аддзелы ў кожным падраздзяленні мелі сваіх агентаў, якіх мы звалі «кручкамі». Яны пастаўлялі звесткі работнікам асобых аддзелаў. А гэтая каста ўжо сама давала ацэнку сабраным фактам пра камандзіраў і салдатаў.

Вайсковыя часці, што трапілі ў акружэнне, лічыліся непаўнацэннымі, іх асабовы склад заносіўся ў чорныя спісы. І зусім ужо блага тым, хто быў запалонены. Да іх ставіліся ледзь не як да здраднікаў. А на пачатку вайны такіх налічвалася мільёны. Пасля вайны ў анкетах стаяла пытанне: ці быў у палоне, у акружэнні. І калі так, дык ніякага ходу табе не было. А, папраўдзе ж, аказваўся ты проста ахвярай абставін і не заслугоўваў такіх адносін.

Нельга вінаваціць пагалоўна ўсіх, хто застаўся на захопленай фашыстамі зямлі. Не ўсе маглі збегчы, прытым, пагатоў, што вораг здолеў прасунуцца далёка на ўсход, акупаваць агромністыя тэрыторыі за кароткі час. Ці паспееш сам эвакуявацца ў такім хаосе, што быў тады? І чаму не бярэ віну на сябе ўрад, што не змог арганізаваць парадак у той час?

Усё гэта было, і нельга змоўчаць тое благое, што таксама сталася фактам гісторыі. Але яно ніяк не можа знішчыць значэнне перамогі савецкага народа над найвялікшай пагрозай усяму чалавецтву — фашызмам. І мы, беларусы, можам ганарыцца сваім немалым удзелам у правай справе, за што нам таксама удзячны ўвесь цывілізаваны свет.

Аляксандр МАХНАЧ,
акадэмік, саветнік прэзідыума АНБ.

# На шляху да генетычнай катастрофы

Сёння ўжо практычна не засталося ілюзіі аб магчымасці рэфармаваць сістэму гаспадарання імкліва, у некалькі гадоў. Таму сацыяльная сфера, у тым ліку і ахова здароўя, будзе фінансавацца зноў жа па «рэштакаваму» прынцыпу. Што прывядзе да яшчэ большай дэградацыі. І як ні сумна, але давадзіцца канстатаваць: здароўе чалавека і генафонд нацыі знаходзяцца пад вялікай пагрозай.

Кіраўніцтву рэспублікі неабходна нарэшце асэнсаваць прапісныя ісціны. Не будзе здаровай нацыі — не будзе і здаровай эканомікі, таму калі на працягу бліжэйшага часу не прыняць экстранных меры, то праз 7—15 гадоў Беларусь ператворыцца ў грамадства, якое дэградуе. Статыстыка прыносіць усё больш хвалюючых даных аб скарачэнні працягласці жыцця, зніжэнні нараджальнасці, росту колькасці самагубстваў і забойстваў, венерычных і спадчынных захворванняў, алкаголікаў і наркаманаў, прыроджаных вырадстваў, адключэння ў людзей «маральных тармазоў». Усё гэта — праявы хранічнага захворвання грамадства, грознае папярэджванне аб тым, што калі небяспечныя тэндэнцыі не будуць пераадолены, нацыя можа аказацца без будучыні.

Трэба адзначыць, што некалькі дзесяцігоддзяў таму мы яшчэ не надавалі значнай увагі экалагічнай пагрозе. Зараз жа настаў час ацаніць, якім чынам забруджванне біясферы вядзе да адмоўных і неабарачальных змен у спадчыннасці чалавека.

Асаблівую заклапочанасць выклікае стан здароўя дзяцей, пацярпеўшых як ад Чарнобыльскай катастрофы, так і ад агульнай экалагічнай абстаноўкі ў рэспубліцы. Так, даследаванні вучоных і назіранні практычных дактароў дазваляюць зрабіць выснову аб рэальнай пагрозе выраджэння нацыі. Лічбы гавораць самі за сябе. На працягу трох апошніх гадоў выяўлены рост захворванняў сярод дзяцей рэспублікі па шэрагу хвароб нервовай сістэмы (на 31,3 працэнта), сістэмы кровазвароту (на 12,6 працэнта), страўнікавых органаў (на 24,5), косцямышачнай сістэмы (на 59), крыватворчых органаў, у тым ліку жалезадэфіцытных анемій (на 18,7 працэнта). На дыспансерным уліку ў дзіцячых эндакрынолагаў знаходзіцца 78,9 тыс. дзяцей. Хваробы шчытападобнай залозы складаюць амаль 64 працэнты ад усёй эндакрыннай паталогіі. За апошнія 10 гадоў зарэгістраваны рост разнастайных злаякасных захворванняў у дзяцей, выклікае трывогу аналіз стану псіхічнага здароўя дзяцей рэспублікі.

Такім чынам, сацыяльна-экалагічная сітуацыя 90-х гадоў і ў асобных раёнах, і па ўсёй Беларусі склалася надзвычай крытычная. Становіцца відавочнай неабходнасць стварэння дзяржаўнай службы генетычнага маніторынга, якая павінна рэальна вызначыць аб'ём і павелічэнне генетычнага груза ў суадносінах са ступенямі экалагічнага напружання і даць прапановы па недапушчэнню фактараў, вядучых да яго павелічэння.

Методыка генетычнага маніторынга пачала рэальна распрацоўвацца з канца 80-х гадоў. За мінулы час навука атрымала асновы практычнага ўкаранення генетычнага маніторынга, што стварае высновы экалага-генетычнага пазнання працэсаў, узнікаючых у генафондзе чалавека пад уздзеяннем забруджвання навакольнага асяроддзя. І навука павінна абараніць гэты генафонд — самае каштоўнае, што стварыла прырода.

Небяспечная радыяцыйная абстаноўка на Беларусі, абумоўленая маштабнасцю і накіраванасцю радыёактыўных ападкаў у выніку аварыі на ЧАЭС, вызначыла разнастайнасць крыніц фарміравання доз апраменьвання насельніцтва. Эксперыментальна пацверджана інгаляцыйнае паступленне радыенуклідаў у арганізм чалавека. Вызначана, што актыўныя часціцы прысутнічаюць у 70 працэнтаў узораў лёгачнай тканіны памерлых людзей з паўднёвых раёнаў Гомельскай вобласці і ў 50 працэнтаў узораў — з Магілёўскай вобласці. Знаходжанне актыўных часціц у глебе і паветры робіць рэальнай пагрозу далейшага іх паступлення ў арганізм чалавека, што мае магчымасць стварыць высокія лакальныя дозавыя нагрузкі. Супастаўленне сярэдніх доз апраменьвання шчытападобнай залозы ў разнастайных узроставых групах насельніцтва паказала, што велічыні доз у дзяцей у 3—10 разоў вышэй, чым у дарослых. Паглыбленае абследаванне дзяцей Хойніцкага раёна ў пачатку 90-х гадоў выявіла адхіленні ў паловы дзяцей дашкольнага ўзросту, якія падвергліся ўздзеянню радыенуклідаў ёду ва ўзросце да 2-х гадоў. У трэцяй часткі дзяцей і падлеткаў гэтага раёна выяўлены разнастайныя сімптомы, частата якіх у 8 разоў вышэй, чым у кантрольнай групы.

Трэба памятаць, што чалавецтва перажывае час, калі забруджванне навакольнага асяроддзя набыло катастрафічны характар як для асобных рэгіёнаў, так і для ўсёй планеты. Гэтыя змены пагражаюць не толькі здароўю людзей, пры далейшым росце парушэнняў у біясферы ўзнікне пагроза існавання чалавека. Парушэнні ў атмасферы, у глебе, забруджванне яе пестыцыдамі, ртуццю, радыенуклідамі і іншымі шкоднымі рэчывамі, пагібель шэрагу відаў жывёл і раслін, захворванне людзей — усё гэта мы бачым і разумеем, да якой велізарнай катастрофы мы падыйшлі. Тым не менш, экалагічная напружанасць усё яшчэ ўзрастае. Так, на Беларусі ў сувязі з забруджваннем навакольнага асяроддзя хімічнымі рэчывамі і асабліва радыенуклідамі, павялічваецца небяспека генетычнай катастрофы, якая можа паставіць пад пагрозу само існаванне біялагічна паўнацэннага чалавека.

С. ТАЛАПІНА,
кандыдат гістарычных навук.

ПОШУКІ І ЗНАХОДКІ

# КРЫНІЦЫ ДАЛЁКАЙ МІНУЎШЧЫНЫ

У выніку розных гістарычных абставін да мясцовага насельніцтва, якое засяляе басейны Віцебскага Падзвіння і Падняпроўя, у межах сучаснай паўночнай часткі Беларусі трапілі рымскія рэчы матэрыяльнай культуры, якія адносяцца да першых стагоддзяў нашай эры. Як яны аказаліся тут, далёка ад антычных рабаўладальніцкіх дзяржаў Сярэдземнамор'я, Прычарнамор'я, Балканскага паўвострава — старажытных Грэцыі і Рыма?

Вялікія водныя артэрыі Усходняй Еўропы давалі магчымасць кароткім і зручным шляхам трапляць вандроўнікам за патрэбнай сыравінай і бурштынам. Апошні, як вядома, меў вялікі попыт у антычным грамадстве, у тым ліку ў міфалагічна-культавых язычаскіх абрадах. У антычны свет, спачатку ў грэчаскія, а з першага стагоддзя і ў рымскія гарады Паўночнага Прычарнамор'я па рэках, акрамя бурштыну, вывозіліся і іншыя тавары ад лясных жыхароў, па ацэнцы рабаўладальнікаў, «варвараў» у абмен на свае вырабы. Знаходкі антычнага імпарту сведчаць, што такія сувязі меліся ўжо ў далёкі перыяд жалезнага веку. Шлях гэты дзейнічаў у эпохі каменя і бронзы.

У 1867 годзе вядомы аматар вывучэння старажытнасцей А. Сементоўскі адзначаў, што меліся выпадкі знаходак розных сярэбраных і бронзавых манет на тэрыторыі Віцебскай губерні, аднак ніводная з такіх канкрэтных знаходак не «прывязана» да населеных пунктаў.

Варта сказаць, што ў 80—90-х гадах мінулага стагоддзя праводзіўся ўлік старажытнасцей у Віцебскай губерні. Мікулінскае народнае вучылішча Аршанскага павета паведамляла, напрыклад: «У пачатку 80-х гадоў жыхар вёскі Дзямянцееў Андрэй Васільеў на сваім агародзе знайшоў скарб рымскіх сярэбраных манет, якія разабралі вяскоўцы. На адной са знаходак было прачытана: «Дэаклецыян». Вядома, што такі імператар правіў з 284 па 305 ст. н. э. Гэты населены пункт зараз уваходзіць у склад Смаленскай вобласці — блізкае пагранічча з Лёзненскім раёнам Віцебскай вобласці. Трэба заўважыць, што вядомы беларускі археолаг і этнограф Е. Р. Раманаў у 1900 годзе ў адной са сваіх работ прыводзіць звесткі, што ў Стражэвічах (цяперашні Чашніцкі раён) знойдзены рымскія манеты, «пацёртыя ад ужывання».

У археалагічным аддзеле Віцебскага дзяржаўнага культурна-гістарычнага музея ў канцы 20-х гадоў захоўваліся рымскія манеты, месца знаходжання якіх не вызначана. Такога тыпу нумізматычныя каштоўнасці захоўваюцца і цяпер у абласным краязнаўчым музеі, але мясціны, дзе яны былі знойдзены, невядомы.

У 1928 годзе была надрукавана кароткая інфармацыя аб знаходцы скарба рымскіх манет у Міёрскім раёне ля горада Дзісны. У 1956 годзе аўтар разам з Э. М. Загарульскім і Я. Г. Краскоўскай даследавалі старажытныя помнікі Дзісны і наваколля. З іх, напэўна, і быў звязаны гэты скарб.

Навукова вызначанымі рымскімі нумізматычнымі знаходкамі з'яўляюцца толькі пяць манет. З іх самая старэйшая — сярэбраны дынар Даміціяна. Апошні з'яўляецца адзінаццатым рымскім імператарам. Знаходка выяўлена ў Браслаўскім раёне, на пясчаным узвышшы левага берага Заходняй Дзвіны, а захоўваецца ў археалагічным музеі ў Лодзі. Чаканена манета ў 84 годзе н. э. Поўная назва імператара — на лацінскай мове — «Цітус-Флавіус Даміціянус», ён з'яўляўся малодшым братам папярэдняга імператара Цітуса, які стаў уладаром дзяржавы ў 30-гадовым узросце. На правым баку манеты — бюст імператара і надпіс, на левым баку — прадаўжэнне надпісу. У перакладзе чытаем: «Імператар, Цэзар, Даміціянус Вялікі, Галоўны язычаскі жрэц, Народны Трыбун, восьмы раз выбраны Консулам, Бацька Бацькаўшчыны». «Народны Трыбун» азначала, што ён абараняе інтарэсы бяднейшых слаёў грамадства (плебеі). На левым баку ў цэнтральнай частцы манеты — аблегчаны ахвярны язычніцкі алтар з гірляндамі і агонь. За такую манету ў Рымскай імперыі ў сярэдзіне І ст. н. э. можна было купіць прыкладна вядро збажыны.

Наступная знаходка выпадкова выяўлена ў 1936 годзе на гарадзішчы ля вёскі Пруднікі Міёрскага раёна — сярэбраны рымскі дынар чатырнаццатага па ліку імператара Публіуса Аэліуса Гадрыянуса. Манета чаканена ў Рыме ў 119—138 гадах. Пераклад амаль што такі, як і папярэдні: консулам быў выбраны ў час чаканкі манеты ў трэці раз. На рэверсе — на панцыры сядзіць міфалагічная багіня Рома, у левай руцэ — кап'ё, у правай — фігурка міфалагічнага ўвасаблення багіні Перамогі — Вікторыі. Ля панцыра — круглы шчыт, лук і калчан. Знаходка захоўваецца ў археалагічным музеі ў Варшаве.



Асобнай увагі заслугоўвае скарб залатых манет ля Браслаўя. Ён быў знойдзены ў канцы 20-х — пачатку 30-х гадоў. Удалося сабраць толькі дзве манеты, якія трапілі ў археалагічны музей у Вільнюсе. Манеты — саліды. Адна з іх была чаканена 73-м імператарам Маркусам Аўрэліусам Карынусам, які правіў у 283—285 г. Рэгаліі «Цэзара» апошні атрымаў пры жыцці свайго бацькі, імператара Каруса, а «Аўгуста» — у межах 283—284 г. На аверсе — бюст уладара і надпіс, з якога вынікае, што ён займаўся дабрачыннай дзейнасцю. На звароце манеты — багіня Перамогі ў лаўравым вянку

(Заканчэнне на 4-й стар.).

# КРЫНІЦЫ ДАЛЁКАЙ МІНУЎШЧЫНЫ

(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.).

і з пальмавай галінкай у руцэ, надпіс — АУГГ: «Аугуста» — тытул жонкі, сястры, маці, дачкі ўладароў. Гэты надпіс пазней стаў стандартным для ўсіх імператараў.

Другая манета Браслаўскага скарба — па ліку 97 імператара Валенса. На правым баку манеты — імператар у дыядэме, плашчы, у руках трымае шар і жазло ўладара. На левым баку — імператар на троне і яго брат Валенцыніян, а вакол галоў іх — німбы, што азначае іх божаскае паходжанне. Надпіс азначае: «Усеагульнае пажаданне, чаканена ў горадзе Трэвіры» (на тэрыторыі сучаснай Бельгіі). У манетах — дзірачкі, якія сведчаць, што манеты былі амулетамі. Дарэчы, манеты, выкарыстоўваемыя ў якасці амулета, знойдзены і ў іншых мясцінах Беларусі.

Пятая знаходка выяўлена выпадкова ў 1982 годзе В. А. Ярмаленкам між вёскамі Туркава і Ракуны Міёрскага раёна. Гэта — рымская сярэбраная манета з вялікім дамешкам бронзы. На аверсе бюст 78-га рымскага імператара Галерыя, а па краю — надпіс на лацінскай мове «Імператар Галерый Максіміліян, Стваральнік дабрачыннага фонду, Пажыццёвы (Свяшчэнны, Узвышаны)». Манета была чаканена, напэўна, пасля часу яго праўлення, г. зн. 311 года. На рэверсе — палітычны лозунг — Канкордыя Мілітум («ваенная згода»). У ніжняй частцы знаходкі маюцца дзве грэчаскія літары, якія на рэспубліканскіх манетах абазначалі: «24 унцыі — дупонзій».

Рымская імперыя пры Дэаклецыяне знаходзілася ў цяжкім палітычным і эканамічна-гаспадарчым становішчы. У выніку пэўных гістарычных абставін вялікая антычная дзяржава была падзелена на чатыры часткі, адной з іх і кіраваў Галерый. У выніку асабістай вайсковай адвагі і ўмелага кіраўніцтва рымскай арміі ад простага пастуха падняўся да імператара, уладара паўночных земляў дзяржавы. Цэнтр яе знаходзіўся ў горадзе Сірміі, на рацэ Сава, на тэрыторыі Югаславіі. У гэтым горадзе пры ім дзейнічалі чатыры майстэрні, дзе чаканіліся манеты. У адной з такіх майстэрняў была выканана і наша знаходка. На манетах выбівалася назва горада на лацінскай мове: СІРМ ці СІР, аднак на знаходцы гэтага няма.

Да часу выпуску аналізуемай манеты адносіцца, напэўна, і скарб манет у былым Аршанскім павеце, аб якім гаварылася, а таксама манета ля Баранавіч. Апошняя была выяўлена ў 1888 годзе І. І. Стаброўскім, жыхаром Слоніма. Такая манета знойдзена таксама ў скарбе з Коўна.

Кожная з манет з'яўляецца своеасаблівым творам старажытнага мастацтва, а таксама пэўным разліковым сродкам у тавараабменных аперацыях антычнага свету з блізкімі і далёкімі народамі.

Рымскія скарбы, асобныя знаходкі — у канечным выніку своеасаблівыя калектыўныя багацці «старажытных вёсак» у адпаведны перыяд іх гісторыі, своеасаблівыя старажытнаэтнаграфічныя крыніцы далёкай мінуўшчыны нашага народа.

*Л. ПОБАЛЬ,*
*доктар гістарычных навук, прафесар.*

НА ЗДЫМКУ: манета, чаканеная пры імператары Даміцыяне (81-98 г. н. э.).

ПРАБЛЕМЫ ІНФРАСТРУКТУРЫ

# Бібліяграфія як галіна: ці нароўні з сучаснасцю?

У апошні час у рэспубліцы істотна пагоршылася дзяржаўнае фінансаванне навуковых выданняў, востра адчуваецца недастатковая забяспечанасць паліграфічнымі матэрыяламі, узнікаюць цяжкасці пры перасылцы кніг.

Не спадзеючыся ў сённяшняй сітуацыі на падтрымку з боку, работнікі Цэнтральнай навуковай бібліятэкі (ЦНБ) АНБ самі прынялі некаторыя захады да ўмацавання становішча навуковай кнігі. У прыватнасці, супрацоўнікі аддзела навуковай бібліяграфіі зрабілі спробу больш глыбокага аналізу попыту на бібліяграфічныя дапаможнікі ЦНБ у межах Беларусі. Гэта першы і, як мы мяркуем, найбольш значны этап у вывучэнні праблемы. Ен дазваляе правільна зарыентавацца ў вызначэнні тыражу паказальнікаў, якія мы выдаём, і, па-другое, намеціць кошт нашай прадукцыі.

Безумоўна, сучасная навуковая інфармацыя — адзін з найбольш каштоўных і дарагіх тавараў у цяперашнім свеце. З другога боку, істотнае падаражэнне цэн на бібліяграфічныя выданні можа аказаць негатыўны ўплыў на іх попыт. Таму для нас важна захаваць раўнавагу паміж рэнтабельнасцю выданняў і даступнасцю цэн. З дапамогай эканаміста ЦНБ былі зроблены разлікі на рэтраспектыўныя і бягучыя паказальнікі з 1991 па 1993 гады ўключна.

У сваю чаргу ў аддзеле навуковай бібліяграфіі была складзена анкета, пытанні якой дазвалялі высветліць каштоўнасць інфармацыі, што змяшчалася ў паказальніках, паўнату ахопу матэрыялу. Анкета давала магчымасць чытачам выказаць свае прапановы і заўвагі. Яна распаўсюджвалася не толькі ў нашай краіне, але і сярод мяркуемых заказчыкаў у іншых дзяржавах СНД і блізкага замежжа.

У работу былі ўключаны і ўсе абласныя бібкалектары, што стымулявала каля 800 дадатковых заказаў на 1993 год. Аналіз паказвае, што найбольшая колькасць заказаў атрымана намі на паказальнікі «Природа Беларуси» і «Беларускае мовазнаўства».

Летась нашы выданні неаднаразова рэкламаваліся ў прэсе. У газеце «Рэспубліка» апублікаваны артыкул «Навукоўцы скажуць «дзякуй», у «Навінах Беларускай Акадэміі», «Вашы памочнікі, вучоныя», у «ЛіМе» — «Вам, аматары мовы». У выніку аддзел атрымаў каля 60 заявак ад індывідуальных заказчыкаў.

Добрай рэкламай нашых дапаможнікаў сталіся выставы бібліяграфічных паказальнікаў у рамках Міжнароднай канферэнцыі «Аб стратэгіі ў галіне аховы навакольнага асяроддзя», якая адбылася ў Акадэміі навук мінулай восенню. Адна з іх была прысвечана бібліяграфічным выданням ЦНБ, у якіх прапагандуецца літаратура па праблемах экалогіі, другая насіла назву «Бібліяграфічныя выданні аддзела навуковай бібліяграфіі ЦНБ АНБ». На выставах былі шырока прадстаўлены выданні аддзела за 40-гадовы перыяд, а яго супрацоўнікі давалі кансультацыі па структуры паказальнікаў, апавядалі пра магчымасці і перспектывы выдавецкай дзейнасці на бліжэйшы час, рэалізацыю выданняў.

Сустрэчы на абедзвюх экспазіцыях пацвердзілі нашы спадзяванні, што зробленае намі не дарэмна, навукоўцы зацікаўлены ў бібліяграфічных паказальніках, выданні аддзела карыстаюцца попытам.

У той жа час крайне актуальнымі застаюцца інфарматыўнасць і своечасовасць выхаду паказальнікаў у свет. Гэтая праблема ў пэўнай ступені цяпер вырашаецца. У прыватнасці, у аддзеле навуковай бібліяграфіі можна карыстацца дыскетным варункам выдання «Природа Беларуси», з дапамогай камп'ютэра атрымліваючы самую свежую інфармацыю. Для гэтага ў машынную памяць рэгулярна ўводзяцца бібліяграфічныя звесткі за бягучы перыяд. Напрыклад, толькі па тэме «Асаблівасці структуры гаспадарчага механізма прыродакарыстання ва ўмовах пераходу да рынку» чытачу было прадастаўлена 50 бібліяграфічных запісаў з базы дадзеных «Природы Беларуси» за 1990—93 гады.

Эфектыўнасці выкарыстання паказальніка «Наука и научно-исследовательская работа в Республике Беларусь» замінае недастатковая аператыўнасць у яго выданні.

Нямала праблем у нас з паказальнікам «Издания АН Беларуси», які выпускаецца з 1987 года. Справа ў тым, што ён не можа замяніць, перш за ўсё па інфарматыўнасці, «Указатель трудов сотрудников Академии наук Беларуси». Патрэба ў гэтым паказальніку пацвярджаецца шматлікімі запытамі чытачоў і работнікаў бібліятэкі для складання рознага роду даведак. Таму супрацоўнікі аддзела распачалі збор інфармацыі пра апублікаваныя летась даследаванні навукоўцаў. Мяркуем, што ў далейшым гэта будзе падставай для стварэння базы дадзеных па названай тэме.

Вельмі беднае фінансаванне акадэмічнай бібліятэкі адмоўна адбіваецца на паўнацэннай яе дзейнасці, на кніжных паступленнях, якія інакш чым ушчэрбнымі не назавеш. Гэта ўваходзіць у кампетэнцыю прэзідыума АНБ, да якога мы і апелюем. А пакуль што даводзіцца недахоп інфармацыі кампенсаваць, прыбягаючы да скарыстання фондаў Нацыянальнай бібліятэкі.

Эфектыўнасць выкарыстання бібліяграфічных паказальнікаў цесна знітавана з аўтаматызацыяй дзейнасці бібліёграфаў, павышэннем інфарматыўнасці базы дадзеных. Вядома ж, рэзка ўзрастаюць і патрабаванні да кваліфікацыі работнікаў. І супрацоўнікі аддзела навуковай бібліяграфіі зацікаўлены ў вывучэнні вопыту калег з Маскоўскага універсітэта, Навукова-тэхнічнай бібліятэкі Сібірскага аддзялення РАН, іншых бібліятэк. І не толькі па матэрыялах друку, а і на практыцы.

Няма сумнення, што на карысць выдавецкай дзейнасці паслужыла б стварэнне ў структуры ЦНБ рэдакцыйна-выдавецкага сектара.

Што датычыць нашых магчымасцей у нарошчванні эфектыўнасці навуковых дапаможнікаў, выдадзеных ЦНБ, то аддзел навуковай бібліяграфіі плануе даследаваць уздзеянне такіх паказчыкаў, як якасць рубрыкацыі, паўната ахопу літаратуры, інфармацыйны шум з тым, каб вынікі аналізу скарыстаць потым на карысць справе.

**Г. ХАРКОВА,**
**загадчыца сектара бягучай інфармацыі аддзела навуковай бібліяграфіі ЦНБ АН Беларусі.**

НЕВЕРАГОДНАСЦІ СВЕТУ

# *Прарочы сон рэпарцёра*

Эдвард Самсон, рэпарцёр аддзела навін газеты «Глоб», заснуў на кушэтцы ў рэдакцыі пасля начнога дзяжурства. Праз сем гадзін ён прахапіўся і ліхаманкава пачаў запісваць свой сон. Апісаў страшэнную трагедыю, смерць многіх людзей, якія з крыкам уцякалі ад патокаў гарачай лавы з абуджанага вулкана. Ён бачыў у сне, як гінулі будовы, расліны, жывёлы і многія, многія людзі. А потым магутны выбух дашчэнту зруйнаваў згублены ў акіяне астравок.

Самсон не задумваўся, навошта запісвае свой сон. Падобна, проста хацеў перанесці на паперу такі выразна бачаны малюнак. У левым верхнім кутку ліста машынальна, як заўсёды, напісаў «у нумар» і пайшоў дадому.

Наступная раніца была для яго страшнай. Дастаўшы з паштовай скрынкі свежы нумар «Глоба», ён прачытаў на першай старонцы: «Тысячы ахвяр — у лаве. Наш спецыяльны карэспандэнт паведамляе». Ніжэй друкавалі пераказ яго ўчарашняга сну.

— Не ўяўляў сабе, што нехта аддасць мае запіскі ў набор, — тлумачыў Эдвард. Цэлы дзень ён засмучаны блукаў па вуліцах, не заходзячы ў рэдакцыю, дзе яго, бясспрэчна, чакала неадкладнае звальненне з работы.

Назаўтра рэдакцыйны кур'ер перадаў яму загад тэрмінова з'явіцца да галоўнага рэдактара.

— Мы былі першымі, хто паведаміў свету пра выбух вулкана Кракатау ў Індыйскім акіяне, — павіншаваў яго шэф. — Больш таго, здарэнне адбывалася менавіта ў той момант, калі нашы чытачы трымалі ў руках свежы нумар газеты.

Са змешанымі пачуццямі перачытваў Самсон апісаныя ім падрабязнасці трагедыі і міжволі адчуваў журналісцкае задавальненне...

Гэты выпадак стогадовай даўнасці стаў аб'ектам даследавання вучоных. Аказалася, што прадказаны рэпарцёрам выбух вулкана ў 1883 годзе быў не адзіным выпадкам яснабачання ў гэтай прафесіі.

У 1898 годзе англійскі журналіст Морган Робертсан выдаў аповесць, у якой апісаў, як прыгожы трансатлантычны лайнер «Тытан» у красавіцкую ноч сутыкнуўся з айсбергам і затануў у Атлантыцы. Праз 14 гадоў, 11 красавіка 1912 года, затануў «Тытанік». Што гэта — выпадковы збег акалічнасцей ці яснабачанне?

Бацька расійскай касманаўтыкі, паляк па паходжанню, Канстанцін Цыялкоўскі напісаў, што людзей, якія першымі прызямляца на Месяцы, будзе двое, а вярнуўшыся на зямлю, яны зробяць пасадку ў акіяне.

Гэтыя з'явы можна растлумачыць тэлепатыяй, але ў найбольш складанай яе форме — калі здарэнні, пра якія гаворыцца, і момант іх прадказання расцягнуты ў часе. Такія сігналы прымаюць толькі адзінкі — іх душы здольны падарожнічаць у часе.

У такое цяжка паверыць, але выпадкі з журналістамі Самсонам і Робертсанам сведчаць пра тое, што іх душы маглі перамяшчацца ў часе і атрымліваць інфармацыю.

(Па матэрыялах замежнага друку).

ВАКАНСІІ

Институт электроники объявляет конкурс на замещение вакантных должностей:

— ведущего научного сотрудника по специальностям: оптические системы локации, связи и обработки инфорации (1), твердотельная элекроника, микроэлектроника (1), технология полупроводников и материалов электронной техники (1);

— старшего научного сотрудника по специальностям: оптические системы локации, связи и обработки информации (2), твердотельная электроника, микроэлектроника (3), физическая химия (1);

— научного сотрудника по специальностям: оптические системы локации, связи и обработки информации (1), твердотельная электроника, микроэлектроника (5), технология полупроводников и материалов электронной техники (2);

— младшего научного сотрудника по специальностям: оптические системы локации, связи и обработки информации (2), твердотельная электроника, микроэлектроника (1), технология полупроводников и материалов электронной техники (4).

Срок конкурса — 1 месяц со дня опубликования объявления.

Адрес института: 220841, Минск, Логойский тракт, 22. Телефон для спра вок: 65-61-54.

*«НАВІНЫ АКАДЭМІІ НАВУК БЕЛАРУСІ»*

Штотыднёвая газета Акадэміі навук Беларусі

Рэдактар Аля ШЫМАНОВІЧ

Адрас рэдакцыі: 220072, г. Мінск, вул. Ф. Скарыны, 1, пакоі 309а, 309 б. Тэлефоны: рэдактара — 39-46-12, карэспандэнтаў — 39-54-51
Мінская фабрыка «Чырвоная зорка» МПВА імя Я. Коласа

Падпісана да друку 11.05.94 г.
Зак. 1029.
Тыраж 1250 экз.

Індэкс 64123